# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 22 (587) ГОД XII 28 МАЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### ЦЭНТРАЛЬНЫ АГЛЯД ДРАМГУРТКОЎ

14 мая ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку адбыўся цэнтральны агляд драмгурткоў з беларускім рэпертуарам. Быў ён папярэджаны павятовымі аглядамі, на якіх найлепшыя калектывы былі заквaліфікаваны на цэнтральны агляд.

І так, драмгурток з Вілінава (Сяміцкі павет) пад кіраўніцтвам настаўніка Анатоля Мартыновіча выступаў з п'есай Нэлы Кліменка «На гарадской ускраіне», а моладзь з Піражкоў (Сакольскі павет) пад кіраўніцтвам настаўніцы Зоі Кастэцкай паказала драму Юркі Геніюша «Зямля».

Самадзейнікі з вёскі Аўгустова (Бельскі павет) пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніка Васіля Кардзюкевіча паставілі дзве п'есы: Алеся Барскага «Гарадскія госці» і Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка» (гэтая аднаактоўка ішла па-за конкурсам).

Гайнаўскі драмгурток таксама з «Гарадскімі госцьмі» не мог выступіць таму, што не прыехаў адзін з вядучых «артыстаў». Замест драмгуртка выступаў з Гайнаўкі харавы калектыў пад мастацкім кіраўніцтвам Віталіса Макаца.

З драмгурткоў першае месца было прызнана самадзейнікам з Піражкоў, другое — аматарам з Аўгустова і трэцяе — драмгуртку з Вілінава.

Усе калектывы адпаведна да занятых месц атрымалі грашовыя і рэчавыя ўзнагароды ад ГП БГКТ, Аддзела культуры прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай і ад Ваяводскага праўлення Саюза сялянскай моладзі.

Журы прызнала таксама ўзнагароду гайнаўскаму харавому калектыву.

У гэтым годзе мастацкі ўзравень драмгурткоў з беларускім рэпертуарам быў значна вышэйшы чым у мінулых гадах.

### ПРАДСТАЎНІКІ ДОМА САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ГП БГКТ

Па запрашэнню Прэзідыума ГП БГКТ наведалі Беласточчыну прадстаўнікі Дома савецкай культуры — намеснік дырэктара А. Самальянаў, загадчык бібліятэкі Р. Чысцякоў і трох іншых працаўнікоў. Наведалі яны Белавежу і пабылі на аглядзе драмгурткоў. Сакратар ГП Ул. Юзвюк расказаў прысутным аб дапамозе Дома савецкай культуры для Беларускага таварыства. Асабліва падкрэсліў тое, што ГП БГКТ атрымоўвае ад яго бясплатна і рэгулярна кінафільмы, якія дэманструюцца ў памяшканні ГП і на вёсках Беласточчыны.

Намеснік дырэктара Дома савецкай культуры А. Самальянаў у сваім кароткім выступленні падзяліўся ўражаннямі з агляду, а таксама паінфармаваў, што іх дэлегацыя прывезла падарак для БГКТ у выглядзе беларускіх арнаментаў да выставак і бібліятэку беларускіх і рускіх кніжак. Выступленне госця было цёпла прынята прысутнымі на аглядзе.

Вечарам адбылося спатканне кіраўніцтва ГП БГКТ з прадстаўнікамі Дома савецкай культуры ў Варшаве.

### НОВАЯ ПРАГРАМА «ЛЯВОНІХІ»

Эстрада ГП БГКТ «Лявоніха» пад мастацкім кіраўніцтвам Эдварда Гойліка падрыхтавала новую праграму. 10-га мая г. г. гэту праграму праслухала кіраўніцтва і актыў Галоўнага праўлення. Пасля выступлення «Лявоніхі» разам з усімі членамі эстрады была праведзена ацэнка рэпертуару і яго выкананне.

Новая праграма «Лявоніхі» розніца ад папярэдніх перш за ўсё тым, што значна большая яе частка складаецца з беларускіх песень. (МХ)



Т. КУЛІСЕВІЧ. МАЦЯРЫНСТВА.

Напіша чалавек «беларуская інтэлігенцыя» і затрымаецца сам здзіўлены. Дзе яна — беларуская інтэлігенцыя і каго ёю завем, або хочам зваць? Адразу выясняю свой пункт гледжання на справу інтэлігенцыі: ва ўсялякім развіцці інтэлігенцыя з'яўляецца маторам. Калі не ўключыцца ў працэс развіцця інтэлігенцыя, я не ўяўляю сабе трывалых і карысных поспехаў.



# ЗАПРАШЭННЕ ДА СНАБІЗМУ

Існуе ў Польшчы на Беласточчыне рух, які завем **рухам культурна-грамадскім беларускім.** У гэты рух інтэлігенцыя шырока не ўключана. Горш, беларуская інтэлігенцыя, па паходжанню сялянская, атрымаўшы адукацыю, адыходзіць ад сялянства (што зразумела), і ад беларускасці (чаго быць не павінна). Вынік такі: беларускі грамадска-культурны рух у Польшчы з'яўляецца рухам чыста сялянскім, вясковым. Апорай беларускасці, як перад вякамі. з'яўляюцца сяляне. Але ад стагоддзяў многа змянілася ў жыцці, новыя сілы ўвайшлі, інакш фармуецца развіццё культуры. Значэнне інтэлігенцыі для ўсялякага культурнага жыцця і развіцця адкрыта даўно. Новая культура Адраджэння ўжо ў XV стагоддзі была заслугай інтэлігенцыі.

У наш час мы ў беларускай дзейнасці замала дацэньваем інтэлігенцыю, замала да яе адклікаемся. Гавару аб шырокім беларускім актыве, увогуле аб беларускім руху, а не аб Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Кіраўніцтва ГП дацэньвае ўсё больш ролю інтэлігенцыі і ўсё больш хоча яе бачыць у сваіх радах.

У вялікім ужо і людным Беластоку жыве многа людзей адукаваных у розных галінах, спецыяльнасцях. Яны выйшлі з вёскі, па паходжанню беларусы, але пакажыце мне гэтых людзей! Пакажыце іх уклад у „пеленгнаванне" і развіццё рэгіянальнай беларускай культуры Беласточчыны, як часткі агульнанароднай культуры Народнай Польшчы? Колькі працэнтаў налічвае інтэлігенцыя ў членстве гарадскога аддзела ў Беластоку, у павятовых аддзелах? Час ад часу на форум беларускага руху, пад патранатам прэзідыума Галоўнага праўлення паказваюцца ўзрывы, спробы прыцягнуць інтэлігенцыю ў беларускі грамадска-культурны рух. Нават не прыцягнуць, бо яна сама беларуская інтэлігенцыя ў сваіх пошуках прыходзіць часта. Але адыходзіць не знаходзячы таго, чаго хоча.

(Працяг на стар. 3)




* * *

Бі мяне віткай
але вырасшай ў сэрцы
круці за вуха
цягні за чупрыну
а пасля перастань
як я плачу паслухай
і схаці слязу сцерці
хусцінай
і тады пашкадуй мяне
ціхім маўчаннем
пашкадуй калі боль
калі горыч адвене
акунуся ў цішу
як сон у змярканне
пагашу ў сэрцы злосці
пагашу ў сэрцы лямант
і прыду да далоняў
як конь падыходзіць да сена
і да рук прытулюся
і вышапчу
МАМА!

**Алесь Барскі**

## ЛЮДЗІ і ЧАС

# Лейбгвардыец Храноўскі

Яшчэ зараз ён высокі і стройны, толькі твар мае пакрыты зморшчынамі. І не дзіўна. Яму ж цяпер ужо 85 год.

Але тады, 60 год таму назад, уздыхалі да яго «паненкі з найлепшых дамоў». Толькі іх мамы і таты дарылі Храноўскага шмат меншай прыхільнасцю. Што ж, мужык, хаця ў лейбгвардыйскім мундзіры.

«Нарадзіўся я, — успамінае **Іван Храноўскі,** — у вёсцы Сабалева, якая знаходзіцца недалёка ад Беластока. Бацькі мелі чацвёра дзяцей і адзін гектар зямлі. Ніхто з нашай сям'і не вучыўся. Толькі некалькіх маіх сабалеўскіх равеснікаў, сыноў найбольш багатых гаспадароў, хадзіла ў беластоцкія школы.

У 1903 годзе прызвалі мяне ў салдаты. З Беластока накіравалі ў сталіцу Расійскай Імперыі — у Петраград. Там з раздзельнага пункта трапіў я ў **першы кавалерыйскі полк царскай лейбгвардыі.**

Гаворачы шчыра лічыў я тады, што мне пашчаслівілася. Нядрэннае харчаванне, стройная вопратка і шабля пры боку — усё гэта прыдавала бодрасці маладому чалавеку, які вырваўся з вёскі. Ды яшчэ пачалі нас вучыць грамаце.

Наш полк, на змену з другімі, трымаў варту ў царскім Зімнім Палацы.

Цар любіў рознага роду парады. Мы, лейбгвардыйцы, абавязкова прымалі ў іх удзел. Асабліва запомніўся мне адзін такі парад, які адбываўся аднойчы на вадохрышча.

Цар са світай сабраліся на замерзлай рэчцы. Свяшчэннікі праводзілі ўрачыстае набажэнства. Усё наваколле Зімняга Палаца было абстаўлена вайскамі. Наш полк у пешым страі знаходзіўся ля Адміраліцейскага Маста.

Набліжалася 12-ая гадзіна дня. Свяшчэннік замачыў крыж у вадзе. У гэты момант з Петрапаўлаўскай крэпасці звычайна давалі халастымі снарадамі ганаровы арматні салют.

Раптам над нашымі галовамі прасвісцелі снарады і марознае звонкае паветра адгукнулася ўзрывам. Сярод натоўпу ўзнікла паніка. Уцёк і цар са світай. Пазней мы даведаліся, што снарадам з Петрапаўлаўскай крэпасці пашкодзілі вугал Зімняга Палаца.

Было гэта першае здарэнне, якое прымусіла мяне задумацца над палітыкай цара і маіх да яго адносін. Прызнаюся, што дагэтуль лічыў я яго сваім дабрадзеем. Незадоўга давялося мне прыняць удзел у другім гістарычным здарэнні, якое астаткова адмяніла мае адносіны да цара. Людзі назвалі гэтае здарэнне «Крывавай нядзеляй».

Яшчэ на досвітку аб'явілі нам баявую трывогу. Наш полк стаяў побач Аляксандраўскага сада. Безупынна з усіх куткоў Петраграда ішлі людзі з царкоўнымі харугвямі, з іконамі і партрэтамі цара. Спявалі песні і маліліся.

(Працяг на стар. 3)

 

А. Баршчэўскі, В. Швед

## Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII кл.

### КРЫНІЦЫ

**Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.**

Вечар даўно кінуў намётку шараватага змроку на заціхаючую зямлю. Гара маўчала, ціха разважаючы аб чымсьці. Поўны месяц устаў на небасхіле; яго таемны і тужлівы вобліск разліўся над ціхімі разлогамі зямлі і неба. Крынічка ўсё бегла, гнала хвальку за хвалькай, поўная задумення. Булькала і звінела, як музыка, зачароўваючы зялёныя беражкі; залатыя мары снаваліся над пахіленымі галоўкамі прыгожых красак. Месячык падплыў яшчэ вышэй і кінуў сваю касу ў лона крынічкі і зачараваў яе. Цяпер ёй яшчэ мацней захацелася ісці далёка, бо ёсць невыразнае хараство ў гэтых прыгожых далях, у гэтых няясных парываннях да невядомага.

Прыгожыя мары-летуценні раптоўна перабіліся. Крынічка пачула, як пад ёю здрыганулася зямля, цяжкая глыба адарвалася ад гары — маткі і загарадзіла ёй дарогу.

— Я не праб'юся! Я не праб'юся! — прашаптала крынічка.

— Хутчэй, хутчэй, дачушка, ты здолееш прабіцца! — з матчынай любасцю і страхам перад дарагой стратай трывожна казала гара.

— Я не праб'юся!.. Што ж? На новую дарогу. — І ў другі бок пабегла крынічка.

Заплакала гара буйнымі росамі... Асірацела старая гара, пераляцеў кудысь салавейка, пасохлі прыгожыя краскі, і жоўтымі пяскамі засыпаў вецер прыгожую былую дарожку крынічкі.

Нарадзіліся і пацяклі другія крынічкі, утвараючы новае жыццё, а гэтае, калісь шумлівае і вясёлае, месца пачало заміраць і глухнуць. І толькі гара з абветранымі схіламі яшчэ сведчыла аб даўнейшых часах поўнага жыцця. Нават трава не расла тут, і толькі непатрабавальны сівец, які прывык да цяжкіх умоў жыцця, сям-там раскідаўся крупінкамі па гары.

Прайшоў час.

Была раніца. Сонейка пачынала новы дзень. Ціха ўздымаўся пад лагчынамі туман, крычалі дзесь гусі. Лесавы жаваранак ужо спяваў у небе і вітаў яснае сонца. Ён так і застаўся тут, каля гэтай гары-сіраты, і толькі адзін разганяў яе журбу; часамі ўсмешка засмучанай радасці асвячала яе жоўтыя схілы.

Скончыўшы песню, жаваранак сеў на камень, што ляжаў на самым версе гары, і сказаў:

— Паслухай, маці, а да цябе прыйшлі дарагія госці, толькі яны баяцца зірнуць табе ў вочы.

На купінках сіўца блішчалі, як слёзы, буйныя кроплі расы.

— Ах, мілая матуля, — загаманілі кроплі, — мы прыйшлі, бо вельмі смуціліся па табе ў далёкіх невядомых краях. Мы — часткі тваё роднай крынічкі, што цякла з твайго сэрца. Даруй жа нам, матка, што мы не паслухалі цябе. — І расказалі аб сваім бадзянні.

Аб чым маглі сказаць яны, падумайце самі.

Гара ж ім сказала:

— За тое, што вы не паслухалі свае маткі і кінулі сваю радзіму, вы будзеце вечна кружыцца па свеце і ніколі не збудзеце сваёй жальбы па родных кутках, і нідзе не будзеце мець вы прытулку на свеце.

Прыгрэла сонейка, заззялі кропелькі дарагімі каменнямі і зніклі.

Куды ж яны дзеліся? Куды?

1913 г.

**Якуб Колас**

1. Што ведаеш аб „Казках жыцця' Якуба Коласа і аб алегорыі?
2. Ахарактарызуй погляды і думкі гары, якая сімвалізуе ў творы айчыну.
3. Як адносішся да крыніцы і росаў сімвалізуючых тых беларусаў, якія пакідаюць сваю мову і сваю айчыну?
4. Ці справядліва аднеслася Гара-Айчына да сваіх дзяцей — кропель расы?
5. Перакладзі на польскую мову фрагмент твора.



Сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч уручае беластоцкім журналістам Адзнакі Тысячагоддзя.

# СУСТРЭЧА З ПАРТЫЙНЫМ КІРАЎНІЦТВАМ

11 мая г. г. у памяшканні Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку адбылася нештодзённая сустрэча. Прыйшлі сюды члены рэдакцыйных калектываў: «Газеты Беластоцкай», «Нашай Всі» і «Нівы», каб з нагоды XX-годдзя РСВ «Праса» сустрэцца з членамі экзекутывы Ваяводскага камітэта: членам ЦК ПАРП, І сакратаром КВ **Аркадзем Лашэвічам,** сакратарамі КВ — **Аляксандрам Младзяноўскім** і **Вітальдам Мікульскім,** членамі экзекутывы — **Уладзіславам Юшкевічам, Мікалаем Кірылюком, Юзэфам Трусевічам.** У сустрэчы прыняў таксама ўдзел намеснік прэзаса Галоўнага праўлення РСВ «Праса» — **Ежы Салецкі.** Прыйшлі сюды таксама прадстаўнікі тых устаноў і прадпрыемстваў, без якіх нашыя газеты не маглі б выходзіць і распаўсюджвацца: друкарні, прадпрыемства «Рух» і пошты.

З вельмі цёплымі словамі ў адрас прысутных звярнуўся І сакратар КВ Аркадзь Лашэвіч. Ад імя экзекутывы ВК ПАРП перадаў ён рэдакцыйным калектывам «Газеты Беластоцкай», «Нашай Всі» і «Нівы», карэспандэнтам і супрацоўнікам і ўсім, хто рэдагуе, друкуе і распаўсюджвае беластоцкія газеты і часопісы самыя цёплыя пажаданні і сардэчную падзяку за іх працу. **«Хачу падкрэсліць з поўнай адказнасцю,** — сказаў А. Лашэвіч, — **велізарны ўклад беластоцкага журналісцкага асяроддзя ў гаспадарчае, культурнае і грамадскае развіццё нашага рэгіёну. Гэта ўклад часта невымерны, хаця многа ініцыятыў, якія падымаюцца на старонках «Газеты», «Нашай Всі» і «Нівы» — успомню конкурс на найчысцейшы горад, ці конкурс на сенажаці — даецца вымераць нават у залатоўках».** Звяртаючыся да журналістаў тав. А. Лашэвіч працягваў: **«Ваяводская партыйная інстанцыя высока цэніць веды і асабістае заангажаванне беластоцкіх журналістаў у сукупнасці жыцця нашага ваяводства... Я глыбока ўпэўнены, што прыгожую прыкмету асабістага заангажавання, якой павінен адзначацца кожны журналіст, будзеце далей прадаўжаць і даглядаць...»**

У час сустрэчы таварыш А. Лашэвіч уручыў Адзнакі Тысячагоддзя прызнаныя Агульнапольскім камітэтам Фронту адзінства народа рэдакцыйнаму калектыву «Газеты Беластоцкай» і 12-ці паасобным журналістам (з „Нівы" — **Міхасю Хмялеўскаму).**

Сустрэча з кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта адбывалася ў вельмі цёплай, сардэчнай і непасрэднай атмасферы.

(ак)

(Працяг са стар. 1)

# Запрашэнне да снабізму

Апошняе спатканне інтэлігенцыі, як яго назвалася ў Беластоку, было перамогай думкі, што можна і трэба працаваць з інтэлігенцыяй горада Беластока. Сярод іх, рассыпаных інжынераў, лекараў, студэнтаў, філолагаў, тэхнікаў, настаўнікаў, медсёстраў,ураднікаў, розных дзеячоў існуе цяга да нечага, што «сваім» завецца. Часта хочацца спаткаць сваіх, пачуць сваю мову. Шукаецца тады. Прыходзіцца ў беларускі клуб. Але клуб беларускі з'яўляецца хутчэй гелдай не вельмі яшчэ прыстасаванай і дысцыплінаванай усялякай моладзі — галаслівай і, што там скрываць, далёкай ад спраў беларускіх.

Маладая інтэлігенцыя горада Беластока, як уся інтэлігенцыя, мае амбіцыі: каб думаць, вучыцца, ведаць, тварыць. Мае амбіцыі інтэлектуальныя. Сказала яна, гэтая інтэлігенцыя на ўспомненым спатканні, што не масавыя забавы яе прыцягваюць, але што прыдаўся б ёй нейкі культурна-інтэлектуальны беларускі цэнтр.

Снабізм?! Гэтым словам як мачугай не сарыентаваныя людзі ўдараюць ва ўсялякія амбіцыі. «Мы людзі простыя — гавораць, — народ! А народ гуляць хоча!»

Замоцнымі лічу такія перакананні!

Вёска?.. Праўда, інтэлігенцыя гуртуецца ў гарадах. Але цяперашняя вёска, не тая, што была. А вёска будучыні, то ўсё больш вёска з інтэлігенцыяй.

Якая інтэлігенцыя ўжо цяпер выступае на вёсцы? Настаўнік, лекар, ветэрынар, аграном, медсястра, кіраўнік святліцы, кіраўнік клубу, працаўнікі ГС-у, працаўнікі ГРН, працаўнікі пошты. У мястэчках, як напрыклад Белавежы, Орлі, Нарве ці Нараўцы, інтэлігенцыі ў два-тры разы больш. А гэта ўжо сіла, якая надае тон і моду, стварае новы тып культуры на вёсцы, культуры ўсё больш зближанай да гарадской.

Самым хлебам чалавек не жыве. І самай народнай культурай не можа жыць. Вёска не хоча і не будзе жыць толькі сваёй народнай песняй, народным танцам, народным дыванам і гэтак далей.

Важна інтэлігенцыя ў нашай перспектыўнай культурнай дзейнасці, важны яе інтэлігенцкі снабізм. Таму прабую запрасіць да снабізму нашу беларускую дзейнасць і нашу беларускую інтэлігенцыю.

**Вера Леўчук**

### МЕЛОДЫЯ НА ФАБРЫЦЫ

Ужо падсумаваны фестывальны культурны год прафсаюзаў. Такім быў 1966 год. Адбылося многа аглядаў і спаборніцтваў паміж існуючымі пры заводах і ўстановах калектывамі.

Што цікавага коратка можна сказаць аб прафсаюзных мастацкіх калектывах? Яны вельмі розныя: тэатральныя, інструментальныя, эстрадныя, танцавальныя, нават мастацтва і фатаграфіі.

Прафсаюзныя калектывы маюць наогул малыя формы. Найлепш развіваюцца інструментальныя калектывы. Іх найбольш працуе сярод рабочай моладзі. Да агляду прыступіла аж 70 такіх калектываў, у той час калі тэатральных было 12, эстрадных — 12, іншых па некалькі. (вл)

(Працяг са стар. 1)

# Лейбгвардыец Храноўскі

А потым... гэта цяжка апісаць. Кругом трупы і чырвоны снег. Гаварылі, што забітымі пала тады каля тысячы чалавек, а параненых было два разы больш.

Мы былі на конях. Памятаю, загадалі нам: **у атаку на рабочых!** Загад ёсць загад. Але ніхто з нас шашкі не выняў. Да рабочых страляў Сямёнаўскі полк, а расстрэлам рабочых кіраваў асабіста дзядзька цара — Уладзімір Раманаў.

Гэтага ж 1905 года адаслалі наш лейбгвардыйскі полк на абучэнне ў Чырвонае Сяло. Аднойчы на абед далі нам капусту з рабакамі і смярдзючае мяса. Першы эскадрон адказаўся ад гэтага абеда. За ім пайшлі іншыя. Я быў у трэцім эскадроне. Неяк зусім стыхійна ўсе нашыя лейбгвардыйцы пастанавілі баставаць. Начальства ўгаварвала, прасіла і пагражала, але нічога не памагло. Мы разбілі склад са зброяй, забралі вінтоўкі і патроны ды чакалі, што будзе.

Пад вечар у раёне нашых казармаў пачаўся вялікі рух. Паявіліся вельмі высокія чыны. Казармы акружыў гусарскі полк. **Гэта ж было нябачаным, каб збунтаваўся першы кавалерыйскі полк царскай лейбгвардыі, найбольш, як лічылі, верныя цару салдаты.** Мы рашылі бараніцца, нават пры дапамозе зброі. Генералы відавочна дайшлі да вываду, што лепш будзе, калі ўсё аформіць ціха. Патрабавалі прадстаўнікоў на перагаворы. Мы склалі спісак з 12 пунктаў, у якім патрабавалі, між іншым, каб не ганялі нас да працы на сенакос і жніво, каб не прымушалі працаваць у агародзе, у нядзелю дазволілі выходзіць з казармаў. Камандаванне ў асноўным адобрыла нашыя патрабаванні і так закончылася гэтая забастоўка. Толькі пасля некаторых лейбгвардыйцаў адкамандвалі ў іншыя палкі».

У 1908 годзе Іван Храноўскі закончыў ваенную службу. Аднак надалей аставаўся ў Петраградзе. Працаваў у майстэрні, якая выпускала кавалерыйскія сёдлы. Там яго застала рэвалюцыя. Іван Храноўскі стаў на баку чырвоных. Між іншым дапамагаў рыхтаваць свой былы полк на фронт. Потым працаваў у рабочых батальёнах па забеспячэнню арміі хлебам. У Польшчу вярнуўся ў 1922 годзе.

**В. Рудчык**



**На здымку:** Лейбгвардыец Іван Храноўскі.



 

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ШКОЛА

Калі давялося мне ехаць на Антанюк, каб наведаць прафесіянальную школу будаўляных прадпрыемстваў і напісаць аб ёй, не ўяўляў я сабе, што аб такой школе можна напісаць. І вось перада мною сучасны прыгожы будынак школы. Побач будуецца гасцініца для абсальвентаў школы, якія астануцца працаваць у будаўляных прадпрыемствах Беластока. Пасля першай мілай журналісцкай неспадзяванкі — наступныя. Школа ўнутры яшчэ прыгажэй выглядае. Прыемнага выгляду дадаюць вельмі ветлівыя дырэктары школы і настаўнікі. Школа фактычна вучыць кваліфікаваных работнікаў для 12 прадпрыемстваў. Ёсць такія спецыяльнасці як: шафёр-механік, механік будаўляных машын, манцёр электраўстановак, манцёр санітарных установак, муляр-тынкоўшчык, бетаметы. Аднак сапраўды захапілі мяне кабінеты для паасобных прадметаў данай спецыялізацыі. **Электрычны кабінет** дасканала абяспечаны навуковымі, тэхнічнымі абсталяваннямі. Большасць навуковых дапаможнікаў школа атрымоўвае з паасобных прадпрыемстваў. Многія дапаможнікі выконваюць самі вучні, напрыклад, перарэз матора, інсталяцыя самахода, на якім вучні будуць рабіць свае першыя крокі. Дасканала і арыгінальна перадуманыя інструктарам **Сцяпанам Чайкай** дапаможнікі да дарожнага руху і многа іншых. Коратка кажучы, многаму тут можа навучыцца нават кваліфікаваны шафёр. А трэба ж дадаць, што школа толькі пачала працаваць над абсталяваннем у навуковыя дапаможнікі, таму што ў мінулым годзе атрымала новае школьнае памяшканне. Нельга не ўспомніць аб зале чарчэння і аб працах вучняў, якія часта не розняцца дакладнасцю ад чарчэнняў студэнтаў.



**Пры такіх землечарпалках праводзяць практыку будучыя механікі будаўнічых машын.**

няр. У школе на Антанюку 840 вучняў, а калі ўлічыць філіялы школы, якія існуюць у Бельску, Аўгустове і Элку, дык колькасць вучняў складзе нам лік больш 1000 чалавек.

Хто гэтыя вучні? Перад усім моладзь, якая закончыла 7 ці зараз 8 класаў пачатковай школы і якая скончыла 15 або 16 год жыцця. Гэта залежыць ад спецыяльнасці, ці патрабуе яна 3 гады навукі ці 2. Вучні з'яўляюцца маладымі працаўнікамі данага будаўлянага прадпрыемства, якое фармальна накіроўвае іх у школу. А як працаўнікі, дык атрымліваюць і зарплату. Залежыць яна ад таго, які год навукі і ад працы вучня. г. зн. 150 да 600, а то і больш злотых. Вельмі істотнай справай з'яўляецца інтэрнат, які фактычна змяшчае ўсіх, з-за Беластока, вучняў. Наведваю паасобныя памяшканні школы. Перш за ўсё гаспадары вядуць у абшырны фізкультурны зал, тлумачачы мне, што школа вядзе не толькі прафесіянальныя заняткі, але добра развіваюцца непрафесіянальныя прад-

Гэта так больш-менш у школе. Але вучні маюць і практыкі на будовах. Мы наведалі групу муляроў, якая працуе пры пабудове Гаспадарчага тэхнікума пад вокам спецыяліста інструктара **Рамана Саботкі.** Юнакі тут не толькі вучацца прафесіі, але і прывыкаюць да працы часта і ў дрэнных умовах. Што можна сказаць аб абсальвентах? Перад усім тое, што прадпрыемствы іх вельмі хваляць і ахвотна ўсюды прыймаюць да працы. Перш за ўсё таму, што гэта людзі, якія «засмакавалі» ўжо працы ў прадпрыемстве і «акліматызаваліся». Нельга не адзначыць, што каля 50% абсальвентаў школы ідзе вучыцца ў трохгадовы тэхнікум на вячэрняе або дзённае аддзяленні.

Ёсць такая школа ў Беластоку.

**А. Карпюк**
фота аўтара

Не буду пісаць, у якой хаце бачыў я ў сенцах матацыкл, заваleны мяшкамі і ўсім іншым. На бак матацыкла ўскочыла курыца і пачала спакойна часацца кіпцюрамі па сваёй курынай патыліцы. Матацыкл стаіць, ніхто ім не ездзіць. Няма запасовых частак да ягонай машынерыі. Машынерыя «сцерлася» на каўдобістых сцежках ад вёскі да вёскі, ад забавы на забаву.

Папавазіў, бедны, на сваёй грыве здаравенных кавалераў і дзяўчат.

А маладым яшчэ гэты матацыкл, куп-

# МАЯ МАРА — МАТАЦЫКЛ

лены ўсяго два гады таму назад. Купля матацыклаў не траціць нічога са свайго размаху, ведаю нават аднаго хлопца, што купіў другі матацыкл. Ездзіць раз на адным, раз на другім, а сам хлопец у даўгах па вушы.

Толькі адна крама беластоцкага «Матазбыту» прадала за мінулы год больш чым паўтысячы матацыклаў — 781 матацыклаў і матапедаў, а ў гэтыя зімовыя месяцы ўжо 121 шт. Другая крама «Матазбыту» прадала мала менш, у тым ліку дзве ці тры «Панонії».

Апрача таго, матацыклы і матапеды прадаюць крамы ГС «Самапомачы» ў мястэчках і вёсках. Асабліва, на Гайнаўшчыне, дзе ўсе вясковыя крамы мураваныя і прасторныя, і прыдатныя да гандлю машынамі. (С.Я.)

# Узнагароды пісьманосцам

Як мы інфармавалі раней, ужо некалькі год наша рэдакцыя кожны квартал прызнае ўзнагароды пісьманосцам за добрыя вынікі асягнутыя ў падпісцы «Нівы». За першы квартал 1967 года атрымалі ўзнагароды наступныя пісьманосцы: Я. Шыманюк і С. Стоцкі з пошты ў Семяноўцы, М. Панфілюк з пошты ў Дубічах Царкоўных і Ул. Андрэюк з Трасцянкі.

Кожны пісьманосец можа лічыць на ўзнагароду ад рэдакцыі «Нівы», калі за квартал здабудзе значна больш падпісчыкаў, чым гэта было ў папярэднім квартале. Да гэтага часу кожны квартал атрымоўваюць узнагароды ў асноўным пісьманосцы з Бельскага і Гайнаўскага паветаў. І далей яны будуць атрымоўваць, калі ў кожным наступным квартале пабольшаць колькасць падпісчыкаў у параўнанні да мінулага квартала. Пажаданым было б, каб і пісьманосцы Беластоцкага, Сямяціцкага, Сакольскага і Дуброўскага паветаў далажылі больш намаганняў і атрымоўвалі ўзнагароды. А ўзнагароды чакаюць. (М. Х.)




**ШТО НОВАГА?**

Павятовая і Гарадская бібліятэкі ў Бельску прыслалі 49 купонаў конкурсу „Беларуская кніжка ў руках масавага чытача".

Купоны прыйшлі з бібліятэк:
Гарадская ў Бельску — 11.
Грамадская ў Москаўцах — 3.
Грамадская ў Орлі — 24.
Грамадская ў Пiлiках — 10.

Дагэтуль Бельскі павет здаў 294 купоны конкурсу.

Дзякуем сардэчна, чакаем наступных.

**ШТО ЧЫТАЦЬ?**

**Рыгор Мурашка**
**«СЫН»**
Раман аб маладых у час рэвалюцыі.
Герой — Ігнась — хлопец з вёскі. У горадзе сярод рабочых гартуецца як рэвалюцыянер.

**Міхась Чарот**
**«АПАВЯДАННІ»**
Збор твораў II том.

**Іван Мележ**
**«МІНСКІ НАПРАМАК»**
Раман. Вельмі цікавы, у трох частках.

**Усевалад Краўчанка**
**«ВЯСНА НА ПАЛЕССІ»**
Аповесць пра партызан.

**Кандрат Крапіва**
**«САТЫРА І ГУМАР»**
Кніжка, якая можа лічыцца за вершаваную пазіцыю ў конкурсе.

# Планы Аўгустова

Вёску Аўгустова, што ў Бельскім павеце, ведаюць многія. Вёска вядомая з таго, што мае даволі шырокую вуліцу, але з другога боку вядома, што ў Аўгустове на вуліцы многа ямаў, якія ператвараюцца часта ў смярдзючыя сажалкі. Гэта і негігіенічна і брыдка. Доўга цярпелі жыхары прыгараднай вёскі. Перш за ўсё не спадабалася гэта партыйнай арганізацыі Аўгустова. Заініцыявала яна ўпарадкаванне вёскі. Грамадскім чынам навазілі пяску і засыпалі ямы-сажалкі пры школе. Але самі, і толькі чынам, жыхары Аўгустова ўсяго не зробяць і таму на ініцыятыву партыйнай арганізацыі адклікнулася мясцовая ГРН, прыймаючы пастанову засыпаць ямы і ўпарадкаваць вуліцу. Звязана гэта між іншым з тым, што ў планах разбудовы вёскі ёсць **правядзенне водаправода, а потым будзе тут уложаны тратуар.**

Калі праца будзе выканана, Аўгустова сапраўды зменіцца. Шкада толькі, што сядзіба ГРН не прыступіла да конкурсу за найчысцейшую вёску. (ак)




Міхал Федароўскі належаў да даволі доўгага спіску польскіх вучоных і пісьменнікаў, такіх як: Чачот, Глёгер, Карловіч, Кольберг, Крашэўскі, Машыньскі, Пяткевіч, Ажэшка і шэраг іншых, якія праяўлялі шчырае зацікаўленне беларускім народам і яго культурай. Федароўскі быў аднак з гэтага спіску самым выдатным, працавітым і плённым вучоным. Даследванню культуры беларускага народа прысвяціў ён 30 гадоў свайго жыцця. Сабраў матэрыял, які паводле яго намераў, меў скласціся на 14 тамоў «Беларускага народа». За жыцця даследчыка выйшла аднак толькі тры тамы. У прадмове да IV тому, які выйшаў з друку пасля смерці Федароўскага ў 1935 годзе, выдаўца праф. Станіслаў Панятоўскі пісаў:

Ніва 28 мая 1967 г.
№ 22 (587) 4 стар.

**«Хацеў ён зрабіць для беларускага людазнаўства з увагі на аб'ём і метад нешта яшчэ больш, чымсьці Кольберг зрабіў сваім «Польскім народам» для людазнаўства польскага».**

V том «Беларускага народа» выйшаў у свет у 1958 годзе. Выдаўцы змясцілі ў ім фрагмент нататак, якія рабіў Федароўскі да прадмовы да сваёй працы. Федароўскі пісаў: **«Том адзін прысвяціць трэба будучай беларускай інтэлігенцыі. Гэта скарбы нашых бацькоў, спадчына прабагатая, і казкі, і песні, і расказы дзядоў прамілых. У пыл былі яны ўдоптаны, як зерне залатое, я іх выдабыў, а вы іх пасейце, каб вашыя будучыя пакаленні плён вялікі сабралі».**

Федароўскі нездарма адзін том свайёй аграмаднай працы прысвячае «будучай беларускай інтэлігенцыі». Інтэлігенцыя гэтая за жыцця Федароўскага амаль не існавала. Узнікненне яе прадказваў аднак аўтар «Беларускага народа», прадказваў ёй прытым вялікую будучыню. У друкаваным у 1912 годзе ў часопісе «Ziemia» артыкуле пад загалоўкам «Вітэбск і Вітэбшчызна» Федароўскі пісаў, што наступіць час, калі беларусы выдадуць вялікіх філосафаў, вялікіх паэтаў, гуманістаў, якія займуць вядучае месца сярод славянскіх народаў.

Трэба сказаць, што гісторыя не была справядлівай у адносінах да Федароўскага. У 25 нумары «Жыцця Варшавы» ад 1961 года ў артыкуле пад загалоўкам «Бялорускі Кольбэрг» вядомы польскі пісьменнік Яраслаў Івашкевіч з жалем пісаў, што мы нічога не ведаем аб гэтым «беларускім Кольбэргу», аўтары шматтомнага «Беларускага народа». І сапраўды аб жыцці Федароўскага даведацца можна вельмі мала. Не ўспамінаюць аб ім нічога энцыклапедыі, у тым ліку «Вялікая савецкая энцыклапедыя», якая падае звесткі аб польскіх этнографах значна меншай меры. Толькі пасля выдання пасляваенных тамоў «Беларускага народа» выйшла з-пад пяра членаў рэдакцыйнага камітэта гэтага выдання некалькі артыкулаў аб яго аўтары. Быў гэта перад усім артыкул архівіста, які каталагаваў рукапісы Федароўскага, Гэлены Казэрскай надрукаваны ў 6 нумары часопіса «Slavia Orientalis» і артыкул этнографа Ежы Дамроша надрукаваны ў III томе выдання Варшаўскага музея народнай культуры і мастацтва.

Кім тады быў Міхал Федароўскі, вялікі сімпатык і прыяцель беларусаў, які збярог для будучых пакаленняў найвялікшы іх скарб — самародную, непаўторную, сёння ўжо амаль зусім загінуўшую культуру? Яго аўтабіяграфія пачынаецца ад слоў: «Паляк, католік, паходзіў з кашубскай сям'і, якая ў першай чвэрці XIX стагоддзя пасялілася ў Варшаўскім княстве, а наступна ў Літве. Нарадзіўся І верасня 1853 года, бацькамі былі Адоль Федароўскі, пазнейшы паўстанец, эмігрант (які загінуў у 1870 годзе ў барацьбе пад Арлеанам) і яго жонка Элеанора».

Хвароба не дазволіла Федароўскаму здабыць высокай адукацыі, кончылася яна на 4 класах варшаўскай прагімназіі. Федароўскі выконваў на Беларусі функцыі кіраўніка розных фальваркаў, што давала яму магчымасць пераездаў з месца на месца і азнаямлення з жыццём беларусаў.

Вялікі ўплыў на Федароўскага зрабіў Ян Карловіч, вялікі польскі вучоны, этнограф, мовавед і музыказнавец, блізкі прыяцель і натхняльнік Федароўскага. Карловіч часта выязджаў з Федароўскім у беларускія вёскі, запісаў ён многа мелодый беларускіх песень, якія былі змешчаны ў V і VI тамах «Беларускага народа». Іншым прыяцелем Федароўскага, якога прозвішча сустракаем часта на старонках «Беларускага народа», быў Іоахім Трачык, музыказнавец, па паходжанню — карпацкі гураль. Федароўскі заахвоціў Трачыка да выездаў у «далёкія літоўскія землі» дзеля пазнання багатай культуры беларусаў. Федароўскі памёр у 1923 годзе. Частка яго рукапісных матэрыялаў загінула падчас другой сусветнай вайны. З тых, якія засталіся, выдадзена ўжо 3 тамы «Беларускага народа». Апрацоўваюцца архіўныя матэрыялы і прадбачваецца выданне наступных тамоў Федароўскага. Дзякуючы Федароўскаму і дзякуючы яго карпатлівым выдаўцам у навуковых кругах Польшчы моцна ўзрасло зацікаўленне беларусамі і іх багатай, арыгінальнай культурай.

**Ул. Паўлючук**

# Мінску 900 год



Будынак Беларускага дзяржаўнага Вялікага акадэмічнага тэатра оперы і балета ў Мінску.



Новыя жыллёвыя дамы на вуліцы Талбухіна ў Мінску.

Часам заснавання горада Мінска прынята лічыць першае летапіснае ўпамінанне аб ім, якое адносіцца да 1067 года. Аб старажытнай гісторыі Мінска расказваюць раскопкі, якія праведзены беларускімі археолагамі.

Багацейшыя знаходкі рэчавага матэрыялу XI—XVI стагоддзяў сведчаць аб высокім узроўні культуры Мінска таго часу. У канцы XIV стагоддзя Мінск быў даволі вядомым горадам, а к сярэдзіне XV стагоддзя становіцца адным з буйных гарадоў Беларусі.

Мінск — горад нялёгкага лёсу. Праз яго прайшлі вялікія войны, ён з'яўляецца адным з самых рэвалюцыйных гарадоў краіны.

У адной шарэнзе з расійскім пралетарыятам працоўныя Мінска ўдзельнічалі ў рэвалюцыях 1905 — 1907 і 1917 гадоў, у барацьбе з нямецкімі акупантамі ў гады першай сусветнай вайны. Бяспрыкладны гераізм і патрыятызм мінчан праявіўся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. З першых месяцаў нямецка-фашысцкай акупацыі Мінска пачало ўзнікаць партыйнае і камсамольскае падполле. Падпольшчыкі, не шкадуючы жыцця, вялі барацьбу з ворагам, арганізоўвалі дыверсіі на прадпрыемствах, на чыгунцы, у фашысцкіх установах, дапамагалі партызанам. Падполле ў Мінску вырасла ў шырокую і масавую арганізацыю. У сваёй дыверсійнай дзейнасці супроць акупантаў падпольшчыкі карысталіся ўсямернай падтрымкай з боку шматлікіх патрыётаў — жыхароў горада.

Тысячу сто дзён Мінск знаходзіўся ў акупацыі, але ён не быў скораны ворагам.

З ліпеня — 1944 года — дзень вызвалення Мінска. Вызвалена сталіца Беларусі з'яўляла сабой страшэнную карціну разбурэння. Узнаўленне Мінска з руін — прыклад самаахвярнай працы мінчан, якія занава пабудавалі свой горад, стварылі яго яшчэ больш цудоўным, больш багатым і прыгожым.

За мужнасць і гераізм, самаадданую партызанскую барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі працоўных горада Мінска ў Вялікай Айчыннай вайне і за поспехі, дасягнутыя ў аднаўленні горада і ў развіцці народнай гаспадаркі, горад Мінск у снежні 1966 года ўзнагароджан ордэнам Леніна.

З МІНУЛАГА

## Новікаў выкрык

Ашуканскі характар адмены паншчыны выклікала абурэнне сялянскіх мас Расіі. У беларускіх губернях нарастала рэвалюцыйная сітуацыя.

Захаваўся сакрэтны данос з Брэсцкага павета аб тым, што калі ў царкве прачытана царскі маніфест і свяшчэннік заклікаў маліцца за цара ды Расійскую Імперыю, селянін Змітрок Новік з вёскі Сюлкі закрычаў: — **«Няма за што маліцца»!**

Царскія ўлады вымушаны былі лічыцца з беларускімі настроямі. У 1861 годзе ставілася справа перакладу на беларускую мову, так званых, «мясцовых палажэнняў» аб царскай рэформе. Чыноўнікі і паны часта гаварылі да сялян па-беларуску, каб здабыць уплыў на масы.

Вядома таксама, што царскія ўлады разважалі праект стварэння часопіса на беларускай мове. (ся)

## Дзіўная кар'ера прозвішчаў

Ёсць шмат прозвішчаў, якія з гадамі адарваліся ад іх носьбітаў і пайшлі ў мянушку. Медыцынскае слова **пастэрызацыя,** гэта значыць знішчэнне ўрэдных мікробаў, выводзіцца ад французскага вучонага **Луі Пастэра,** выдатнага даследчыка света бактэрый. Амерыка таму завецца Амерыкай, што апісаў Новую Зямлю, адкрытую Калумбам, нейкі Амерыга Веспучы, купец з італьянскага горада Фларэнцыя.

Можна назваць яшчэ многа прозвішчаў вучоных: **Ньютан, Джуль, Вольт, Ампер, Ват.** У іх гонар названы былі электрычныя і механічныя паказальнікі, якімі зараз шырока карыстаемся штодзень — хаця б тады, калі купляем электрычную лямпачку на 220 **вольт** і 40 ці 60 **ват.**

У народзе асталіся прозвішчы не толькі вучоных і даследчыкаў. На колькі ж папулярным у нашым часе стала слова **«хуліган».** Нават дзіця, калі толькі навучыцца гаварыць, паўтарае гэтае слова. І ніхто зараз не задумоўваецца над тым, што гэта іменна **прозвішча.** Так называлася адна ірландская сям'я, якая была ў палавіне XIX века і праславілася разбойніцкімі замашкамі ў сваім асяроддзі.

Гэтае самае адносіцца да прозвішча **Распуціна** — рускага нібы манаха, які адыгрываў важную, але нясплаўную ролю ў царскай Расіі ў 1906—1914 гадах. Яшчэ зараз у нашым беларускім асяроддзі часта можна пачуць кліч: **„Ах, ты распуцін!"** Раўназначна гэта з разбойнікам, хуліганам. (а-вр)




### АДВАКАТ ТРАМПЧЫНСКІ І СЫН

Як заўсёды, у кожную сераду ў яго маленькім лясным маёнтку, што за Рыбнай, збіраліся пан Рагальскі, былы выдавец газеты, гер Траўб, нямецкі пісьменнік, ваенны карэспандэнт пры штабе групы армій «А» ў кракаўскім гарнізоне і пан Феакціставу-Німуэр, паўкроўка (маці — немка, бацька — рускі), вядомы выканаўца жанравых песняў, які прыехаў на гастролі ў армію.

Адвакат Трампчынскі прыймаў гэтых людзей у сябе ў маёнтку, закусвалі абы чым, пілі самагонку, якую Трампчынскі выменьваў на паперу, а пасля вячэры сядалі за прэферанс.

Сын Трампчынскага, Юзэф, рыхтаваў каву, а часам падмяняў бацьку, калі той выходзіў на кухню заняцца закускамі. Так было і цяпер. Траўб глядзеў міма Юзэфа недзе ў сцяну.

— Як вы думаеце, за кім будучыня, Юзэф? — спытаў ён.

— За праўдай.

— Я задаю вам сур'ёзнае пытанне.

— Я сур'ёзна адказваю вам, пісьменнік.

— Перастаньце называць мяне пісьменнікам, я прасіў вас сто разоў. Я ж не называю вас, напрыклад, афіцэрам.

— Чаму? Можаце называць.

— Шмат гонару: афіцэр без арміі. У гэтым усе вы, палякі, — нацыя добраахвотных вар'ятаў.

— Мы не такія ўжо вар'яты, — сказаў Рагальскі, — як гэта можа здавацца.

— Вар'яты, вар'яты, — паўтарыў Траўб, — але не проста вар'яты, а добраахвотныя вар'яты. Гэта я вам камплімент гавару. Мы, напрыклад, прадуманыя крэтыны. Гэта я аб немцах. Аб сабе і палавінцы Феакціставa. Вялікая нацыя, вялікая нацыя!

— Пане Траўб, вас павесяць, — сказаў Рагальскі.

— А што я сказаў? — здзівіўся Траўб. — Я сказаў, што мы найвялікшая нацыя, найвялікшая дзяржава найлепшага і мудрага фюрэра.

— Важная інтанацыя, — сказаў Рагальскі.

— Э, кіньце... За інтанацыю пакуль яшчэ не саджаюць. Калі б я сказаў, што мы нацыя крэтынаў, нешчаслівая дзяржава, якая трапіла ў лапы ідыёта, тады я першы бы прагаласаваў за свой арышт! Але я ж сказаў зусім адваротнае.

— З вамі з кожным днём усё цяжэй, — сказаў Рагальскі, — што з вамі, мілы пісьменнік?

— Я не пісьменнік! Я стары дурань!

Траўб падняўся з крэсла і адышоў да століка, заастаўленага бутэлькамі з самагонам. Следам за ім падняўся Юзэф. Ён спыніўся каля Траўба і сказаў:

— Пане ваенны карэспандэнт, мне патрэбны чысты аўсвайс для аднаго сябра...

— Дурненькі, — адказаў Траўб, выпіўшы, — калі я лаю маю дзяржаву і яго лідэраў, дык гэта не значыць, што я гатовы здраджаць мой народ, які трапіў у іх лапы. Я да вас нядрэнна стаўлюся, але выратаваць ад шыбеніцы не змагу. Не лезце ў кашу. Выжывіце, гэта будзе ваш доўг перад радзімай. Каб ёй служыць, трэба ўмець выжываць. Перамагае той, хто выжыве. Герой, які загінуў, асуджаны на забыццё, трус, які выжыў, можа стацца героем.

— Юзэф! — крыкнуў з кухні пан Трампчынскі. — Юзэф, дровы канчаюцца.

— Выбачайце, я зараз, — сказаў Юзэф і выйшаў з пакоя.

На кухні, каля дзвярэй стаяў Заёнцкі. Для пана Трампчынскага — старэйшага ён быў проста Заёнцкім — гадзіншчыкам і самагоншчыкам. Для Трампчынскага — малодшага ён быў таварышам Сівым. На самай справе ён быў Збігневам Сячкоўскім — начальнікам групы разведкі Кракаўскай падпольнай арганізацыі.

Юзэф і Сівы вышлі на панадворак. Ноч была халодная.

— Юзэф, — спытаў Сівы, — калі ты ў апошні раз бачыў Андрэя?

— Андрэя? Пазаўчора. А што?

— Пачакай. Дзе ты яго бачыў?

— У Кракаве.

— Гэта ясна. Дзе менавіта?

— Каля магазіна пана Алойза.

— У колькі гадзін?

—У тры.

— Ён быў п'яны?

— Што ты... Не...

— Колькі грошай ты яму перадаваў?

— Тысячу, як абяцаў.

— Куды ён пайшоў потым?

— Не ведаю. А ў чым справа?

— Пачакай. Як ён быў апрануты? Быў у нямецкай форме без пагонаў?

— Не. Ён у шэрым касцюме.

— Шэрая кашуля з чырвоным гальштукам?

— Так.

— Вось дык штука...

— А што здарылася?

— У пяць гадзін яго бачылі як уваходзіў у абвер. У дзевяць гадзін ён выйшаў адтуль.

— Не можа быць... Дык... ён рускі разведчык.

— А да першай гадзіны ночы ён піў у казіна для нямецкіх афіцэраў з палкоўнікам абвера Бергам.

— Што ж мне, пара ўцякаць у лес?

# ТРЫБУНА чытачоў

## АБ НЕПАРАДКАХ У РАЙСКУ

У Райску на ўзгорку стаяў драўляны стары барак. Жыхары нашай вёскі пастанавілі разабраць і з яго пабудаваць святліцу. Аднойчы раніцай у нядзелю разабралі барак. У наступную нядзелю зрабілі фундамент. А пасля зноў у нядзелю паставілі сцены і накрылі.

Але ўжо прайшло шмат часу ад гэтых працавітых нядзель і далей нічога не робіцца. Не ўстаўлены там вокны і недароблена драбнейшых рэчаў. Хлопцы перад забавай наводзяць у гэтым будынку парадак, устаўляюць тымчасовыя вокны, якія пасля зноў выпадаюць або нішчаць іх аднавяскоўцы.

Ёсць і іншыя непаладкі ў нашай вёсцы. А менавіта: у канцы красавіка прывезлі ў Райск кіёск «Руху». Людзі ўзрадаваліся, што можна будзе купляць там розныя часопісы. Але гэтая радасць была толькі адзін дзень. На другі дзень на кіёску вісела картачка, якая інфармавала, што прадаўшчыца выехала ў Бельск па службовай справе. Усё было б нічога, каб яна выязджала не так часта. Але, на жаль, тут амаль кожны другі дзень можна пабачыць закрыты кіёск. Хто тут вінаваты? Ці прадаўшчыца, ці ўстановы, якія яе там часта клічуць у Бельск?

Яшчэ некалькі прыкладаў. У Райску ў 1962 годзе была пабудавана крама. Але што з таго, калі яе ўжо тры разы рамантавалі і ўвесь час абвальваецца ў краме тынк. Значыць, робіцца папартацку.

Па-партацку таксама зроблена дарога да «тучарні» свіней. Два разы яе рамантавалі і ўвесь час з яе робіцца карыта, у якім многа балота. А можна было б зрабіць адразу добра.

Адразу добра можна было б зрабіць мосцік па дарозе ў Плюцічы. Яго падмывае вясной вада. Кожнай вясною нанава будуецца гэты мосцік.

Мусіць нашыя людзі любяць адно і тое ж самае рабіць па некалькі разоў. Мусіць ужо закаранілася ў нас партацкая традыцыя.

**Мікола**
з Райска

## ЯШЧЭ АДНА КЛУБА-КАВЯРНЯ

Ад 1-га мая ў Боўтрыках (Беластоцкі павет) адкрыта клуб «Селяніна». Клуб памяшчаецца ў колішняй чатырохкласнай школе. Памяшчэнне даволі вялікае. Людзі Боўтрык могуць у вольны час пачытаць часопісы, пагуляць у шахматы або шашкі. Пакуль што ў клубе няма ні радыёпрыёмніка, ні тэлевізара. Але ўсе маюць надзею, што ў нядоўгім часе ў клуб завітае і тэлевізар.

**М. Л.**
Боўтрыкі

---

— Ты два разы перадаваў яму грошы?

— Так.

— Ён табе не гаварыў, хто ён такі?

— Не. Ён проста сказаў, што прыйшоў ад цябе.

— А я для вашай сям'і не на столькі гадзіншчык, колькі самагоншчык. Ты з ім не гаварыў ні аб чым?

— Ніколі.

— Як бы не давялося мяняць кватэру мне... Ты па-за ігрой, ён не ведае, хто ты і адкуль. Перадаваў грошы за самагон майму чалавеку: гэта перакапаўча. Ай-яй-яй, якая штука атрымліваецца...

— Ты запытваў чырвоных?

— У лесе кончылася сілкаванне для рацыі. Добра, ідзі прагульвай грошы немцу. Заўтра раніцай я да цябе прыйду, можа, што і высветліцца. У кожным выпадку: ты перадаваў грошы майму чалавеку за самагон, які атрымліваў у нас. Для алібі я табе кіну сёння пісьмо з просьбай рэшткі вашага даўга перадаць пану Андрэю, ясна?

— Добра.

Сівы паціснуў руку Юзэфу і пайшоў уніз, да дарогі. Юзэф стаяў на ганку дагэтуль, пакуль не заляскатаў матацыкл на ніжняй дарозе: Сівы паехаў. Юзэф дастаў сігарэту і закурыў. Ён адчуваў, што рукі ў яго дрыжаць.

Ні Юзэф, ні Сівы не ведалі, што разведчык Андрэй, закінуты ў гэты раён тры месяцы таму назад з самалёта, мае клічку «Муха» і што менавіта да яго павінна была выйсці група Віхра.

**(Працяг будзе)**

## ПЕРСПЕКТЫВА

Сельскагаспадарчы гурток у Дубічах Царкоўных мінулаю зімою купіў 50 племянных авечак. Ужо за воўну з гэтых авечак гурткоўцы атрымалі 30 000 злотых.

Авечкагадоўля ў Дубічах Царкоўных мае багатую перспектыву.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ПОМНІК

**У Бельску Падляшскім пабудаваны помнік загінуўшым змагарам у 1941 — 1947 гадах за народную ўладу.**

**Урачыстае адкрыццё помніка адбылося 29 красавіка.**

**П. Зінкевіч**






## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву я на вёсцы. Маю добрую гаспадарку і сам адзін астаўся на гэтай гаспадарцы. У маёй вёсцы ёсць адна дзяўчына, якая мне вельмі падабаецца. Год таму назад я з ёю сябраваў, але калі сказаў ёй жаніцца, дык яна адказала, што яшчэ замаладая (сапраўды маладая). Аднак я адчуў, што не ў гэтым была прычына. Я проста ёй не так вельмі падабаўся, як яна мне. Яна пазнаёмілася з другім хлопцам, які працуе ў горадзе (сам паходзіць з другой вёскі). І нашае сяброўства парвалася. Яна перапісвалася з Генікам, а калі прыязджаў у нашу вёску, гуляла на забаве толькі з ім. Прайшло два месяцы, як Генік перастаў ездзіць да Тоні, і перарвалася іх перапіска. Не ведаю, па якой прычыне, аднак чуў я, што Генік ажаніўся. Тоня асталася сама. Прыходзіць цяпер на забаву, гуляе з усімі, і са мной таксама. Аднак нейк сумна выглядае, напэўна ёй непрыемна, што людзі ведаюць аб гэтым, што яе нарачоны ажаніўся з другой. Я надумаўся цяпер пайсці да яе і паўтарыць сваю прапанову жаніцьбы, але баюся, каб ізноў не адмовіла і каб не смяяліся з мяне мае сябры. Што рабіць? Парай.

**Пеця з Сакольшчыны**

**Дарагі Пеця!**

З лісту твайго вынікае, што ты кахаеш Тоню. Цяпер знайшоў зручны момант, каб запрапанаваць ёй жаніцца. Аднак я не раіла б табе так хутка прапанаваць ёй жаніцьбу. Бо яна сапраўды ў гэтым часе можа згадзіцца выйсці за цябе замуж, каб даказаць, як кажуць, людзям. Таму іменна пачакай. Хай яна забудзе аб гэтай прыкрай справе. Гэты час пазволіць табе акрэсліць яе пачуцці да цябе. Калі яна іх мае, напэўна выйдзе за цябе замуж, а калі не, дык лепш будзе забыць табе аб Тоні. Гэтак будзе лепш для вас абоіх.

**Сэрцайка**

## ПАСАДКА ЛЕСУ



**Вучні з педагагічнага ліцэя пры пасадцы лесу.**

На Бельшчыне кожны год павялічваецца плошча лесу. На сялянскіх землях у гэтым годзе будзе пасаджана 300 га лесу. І так, у Паўлах сяляне засадзяць лесам 28 га, у Пасынках — 23 га, у Дзяніскіх — 15 га, у Плюцічах — 11 га, у Малінаве і Відаве па 10 га. Ляснічыя часта спатыкаюцца з малой колькасцю рук да працы пры яго пасадцы. Прыходзіць ім з дапамогаю школьная моладзь. Нядаўна садзілі лес вучні педагагічнага ліцэя ў Бельску. 36 асоб з IVа за адзін дзень пасадзілі ў Пасынках 2 га.

**П. Зінкевіч**
Бельск

---

## НЕДАРАЗУМЛЕННІ З КЛАСІФІКАЦЫЯЙ

У Тафілаўцах ужо 7 год існуюць калёніі. І вось менавіта ад таго часу няма спакою з класіфікацыяй зямлі. Яна вельмі высока скласіфікавана. Людзі ўвесь час складалі скаргі, дамагаліся новай класіфікацыі. Урэшце 4 мая прыехалі класіфікатары. Але што ж зробіш тут у нас, калі на поле не ўлезці, многа вады. І здаецца гэтая вада сапсуе пасеяную ярыну.

**Янка Петручук**
Тафілаўцы

## „ПІНСКАЯ ШЛЯХТА"

Старшакласнікі са школы ў Белках пад кіраўніцтвам свайго настаўніка падрыхтавалі п'есу Дуніна — Марцінкевіча «Пінская шляхта». Выступалі яны ўжо 7-га мая ў сваёй вёсцы падчас урачыстага спаткання насельніцтва з афіцэрамі войска Польскага.

**Ярош**
Белкі

## ПАЭТЫ Ў ЛІЦЭІ

6-га мая наведалі беларускі ліцэй у Гайнаўцы: выкладчык беларускай літаратуры на беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, паэт Аляксандр Баршчэўскі і паэт Віктар Швед. Заахвочвалі яны вучняў паступаць на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта. Потым чыталі яны свае вершы, якія ўсім вельмі падабаліся.

**М. Тэлешэўскі**
Гайнаўка

## СТАНІСЛАЎ КАПЭЛЯ

Станіслаў Капэля працуе ўжо 10 год пісьманосцам на пошце ў Храбалах. Абслугоўвае ён такія вёскі, як: Дзяніскі, Плёскі, Кнаразы і Рэпнікі. Залічаецца ён да перадавых пісьманосцаў у Бельскім павеце па колькасці падпісчыкаў газет. Падпісчыкаў «Нівы» ў яго зараз 130. За добрыя вынікі ў сваёй працы Станіслаў Капэля на «дзень паштоўца» ў гэтым годзе атрымаў адзначэнне.

**Л. Л.**
Плёскі

## СПАТКАННЕ З АФІЦЭРАМ

У другой палавіне красавіка ў Рыбаках адбылося спатканне насельніцтва з афіцэрамі Войска Польскага. Да школы пад'ехаў вайсковы самаход, з якога выйшаў маёр Рэгель з Міністэрства абароны і старшыня ГРН у Юшковым Грудзе Мікола Міруць. Спатканне было прысвечана 25 гадавіне заснавання ППР і 50 гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Усе прысутныя з зацікаўленнем слухалі, а пасля задавалі маёру пытанні. Потым выступіў старшыня ГРН у Юшковым Грудзе Мікалай Міруць, які многа гаварыў аб пабудове пункта аховы здароўя — найбольшага ў аколіцы, у якім будзе лекар, фельчар, зубны лекар, аптэка і г. д. Спачатку трэба каб знайшлося 300 членаў, і тады ў наступным годзе рушыць будова коштам 1 800 000 злотых. Пункт пабудаваны будзе ў цэнтры Юшковага Груда. Пабудавана яшчэ будзе школа, пошта, ГРН і слясарня.

**М. Л.**
Бандары

**Па слядах нашых публікацый**

## «ЗНІЖАЕЦЦА % ТЛУШЧУ МАЛАКА»

Пад такім загалоўкам у № 13 «Нівы» з датаю 26 сакавіка была надрукавана інфармацыя аб несумленнай малачарцы ў Райску. Крытыка памагла. Зараз малачарка ўпісвае належны працэнт тлустасці малака, а таксама запісвае не ашукваючы, дакладна, хто колькі прынёс літраў малака.

**Кірыла і Гаўрыла**
з Райска

# КІНО

**Праграма**

**на 30. V. — 4. VI. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Rycerz bez zbroi" (bułg.), 30—31.V. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 1—2.VI. „Popioły" (polski), I i II s. 3—4.VI.

**Кляшчэлі**

„Bokser" (polski), 30—31.V. „Niewidomy muzyk" (radz.), 1—2.VI. „Przygody Warnera Holta" (NRD), 3—4.VI.

**Дубіны**

„Barwy walki" (polski), „Trzy światy Guliwera" (angl.), 3—4.VI.

**Нараўка**

„Oknó na lunapark" (włoski), „Ranny w lesie" (polski), 31.V.—4.VI.

**Нарва**

„Zemsta OAS" (franc.), „Tak" (węgierski), 31.V.—4.VI.

**Чыжы**

„Arcylokaj" (franc.), „Odraza" (węgierski), 31.V.—4.VI.

**Дубічы Царкоўныя**

„Śmierć Tarzana" (czeski), „Dziewczyna kłamie" (jugosłowiański), 31.V.—1.VI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„O carski tron" (bułg.), „Siedmiu przysięgłych" (franc.), 31.V.—4.VI.

**Орля**

„Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), „Nikt nie zna prawdy" (radziecki), 31.V.—4.VI.

**Райск**

„Święta wojna" (polski), „Wystrzał" (polski), 31.V. — 4.VI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Sami na wyspie" (jugosł.), 30.—31.V. „Chudy i inni" (polski), 1—2.VI.

**Міхалова**

„Tylko we dwoje" (angl.), 30—31.V. „Miłość surowo wzbroniona" (węg.), 1—2.VI. „Szyfry" (polski), 3—4.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Więźniowie nocy" (argentyński), 30—31.V. „Poławiacze gąbek" (radz.), 1—2.VI. „Bokser" (polski), 3—4.

**Шудзялава**

„Winnetou" (jugosł.), I i II s. 31.V.—4.VI.

**Сідра**

„Teresa Desgueraux" (franc.), 30—31.V. „Szkoła grzeszników" (czeski), 1—2.VI. „Don Gabriel" (polski), 3—4.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Pamiętnik pani Hanki" (polski), „Trzy klucze" (jugosł.), 31.V.—4.VI.

**Ліпск**

„Nieznany" (polski), „Święta wojna" (polski), 3—4.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,30 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6 749 Błtk M-3

